# Наша Свабода

№69(156) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

6 ЛІПЕНЯ 2001 года ПЯТНІЦА



Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com


КОШТ СВАБОДНЫ



## Святы Брэсту ў цяжар

Буйны банкаўскі крэдыт па высокай 60-працэнтнай стаўцы рэфінансавання вымушаны зараз узяць Брэсцкі гарвыканкам, каб пачаць выплату адпускных настаўнікам.

Бюджэт горада пусты. Калі яшчэ ў траўні грашовыя паступленні з усіх падатковых крыніцаў склалі 3,4 мільярда рублёў, то ў чэрвені (у якім горад менш працаваў, чымсьці чысціў асфальт да прыезду А.Лукашэнкі і Аляксія II) зборы не дацягнулі і 2,5 мільярда. Калі ўлічыць, што і ад гэтай мізэрнай сумы для ўсёй гарадской гаспадаркі трэба «сэканоміць» 15% для так званага 100-доларавага заробку бюджэтнікам, то Брэст пасля святаў сутыкнуўся з праблемамі перабояў у камунальным абслугоўванні, прастоямі грамадскага транспарту, дрэнным забеспячэннем лекамі і харчаваннем хворых у бальніцах.

**Галіна БАРАВАЯ**

## У Жодзіне яшчэ горш

З вядомым журналістам і праваабаронцам Валерыем Шчукінам жорстка абыходзяцца ў СІЗА Жодзіна. Валерыю Шчукіну тупым лязом гвалтоўна пагалілі бараду, параніўшы пры гэтым твар.

У Жодзіна В.Шчукін быў пераведзены з Мінскага СІЗА для адбывання 3-месячнага арышту. У Жодзінскім СІЗА ў В.Шчукіна адразу забралі Крымінальны кодэкс, мастацкую літаратуру, незалежную прэсу, зубную пасту (таму што цюбік металёвы). Валерыю Шчукіну забаранілі сустрэцца са святаром Іванам Спасюком (прадстаўніком Беларускай аўтакефальнай царквы), духоўнікам В.Шчукіна.

**Праваабарончы цэнтр «Вясна»**

## Пятроўна саступіла без бою

Сышла з дыстанцыі другая жанчына, якая пажадала стаць беларускім прэзідэнтам. Учора Цэнтрвыбаркам адмяніў сваё рашэнне аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы патэнцыйнага кандыдата ў прэзідэнты Наталлі Машэравай. Змагацца за найвышэйшую пасаду ў дзяржаве засталіся толькі мужчыны – 21 чалавек.

Пазаўчора Наталля Машэрава прыняла рашэнне адмовіцца ад далейшага ўдзелу ў прэзідэнцкай гонцы. Прычыны такога рашэння дакладна невядомыя. Вядома толькі, што ў сераду кіраўнік ініцыятыўнай групы Н.Машэравай прынёс у Цэнтрвыбаркам заяву ад кандыдаткі з просьбай адмяніць рэгістрацыю. Самой Наталлі Машэравай цяпер няма ў Мінску і, як паведаміла яе памочніца, не будзе да 10 ліпеня.

Нагадаем, што сваё жаданне балатавацца ў прэзідэнты напачатку выказвала яшчэ адна жанчына, бібліятэкарка Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта Ніна Лабанава. Але пасля таго, як выкрылася ейнае махлярства — фальсіфікацыя спісаў ініцыятыўнай групы і «недакладная інфармацыя» пра працоўную пасаду, — Цэнтрвыбаркам быў вымушаны адмовіць жанчыне ў рэгістрацыі.

Наталля Машэрава дагэтуль не разглядалася ўсур'ёз у якасці самастойнай палітычнай фігуры. Не без дапамогі Аляксандра Лукашэнкі (у чым ён сам нядаўна прызнаўся – з шкадаваннем) дачка былога першага сакратара кампартыі Беларусі стала дэпутатам Палаты прадстаўнікоў – парламента, не прызнанага нідзе, апроч Расіі, Кубы, Ірака і яшчэ дзвюх-трох таталітарных краінаў. У цяжкай барацьбе ёй удалося адняць гэтае месца ў былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра, які таксама прэтэндуе цяпер на прэзідэнцкую пасаду.

*Заканчэнне на стар.3*

# Спроба згуртавання нацыі

Фота Ул.ШЛАПАКА

*5-6 ліпеня напярэдадні Купалля ў мінскім Доме літаратара праходзіць III з'езд беларусаў свету. Папярэднія праходзілі ў 1993 і 1997 гадах.*

Тое, што нацыянальны форум адбываецца ў пісьменніцкім доме, ёсць куды больш прыстойным варыянтам, чымсьці Дом культуры тонкасуконнага камбіната, які да самага пачатку з'езда трымаўся ў якасці падстраховачнага будынку пасля адмовы Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына» ў прадастаўленні памяшкання з боку шэрагу адміністрацыяў сталічных будынкаў. Хоць учора, у першы дзень з'езда, многія выступоўцы казалі пра тое, што падобнае мерапрыемства мусіць адбывацца ў будынках са статусам кшталту Палаца Рэспублікі. Але пакуль што там ладзяцца так званыя ўсебеларускія сходы. Разам з тым многія дэлегаты ад прыкладна 70 суполак беларусаў з 20 краінаў свету і з уласна Беларусі ў процівагу такіх мерапрыемстваў адзначалі добраахвотнасць – «па закліку сэрца» – з'езду беларусаў свету.

З'езд арганізаваны выключна намаганнямі ЗБС «Бацькаўшчына» з тае прычыны, што досвед мінулых форумаў засведчыў, што дзяржава за аказаную дапамогу вымагае пэўных рэверансаў. Прычым часта палітычнага кшталту. Цягам апошніх гадоў у лініі лаяльнасці-нелаяльнасці да існуючага ў Беларусі рэжыму сярод беларусаў замежжа адбыўся сапраўдны раскол. Ягоныя адгалоскі гучалі і напярэдадні III з'езда беларусаў свету. НАША СВАБОДА ўжо пісала пра тое, што беларускія амбасады за мяжой рэкамендавалі прадстаўнікам беларускай дыяспары не прыязджаць на з'езд. Тое самае даводзіў і намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў Іван Яновіч у газеце «Голас Радзімы». Сярод ягоных аргументаў наступнае: «Апазіцыя, хутчэй за ўсё, будзе імкнуцца максімальна выкарыстаць факт гэтага з'езда для ўмацавання напружанасці ў грамадстве. Гэтая сустрэча замест канструктыўнай работы можа ператварыцца ў палітычнае шоу».

*Заканчэнне на стар.3*

# Памідорны тэрор

*Былы дэпутат Мінскага гарсавета ў 1990-1996 гадах Сяргей Лапцеў па-свойму выказаў сваю нязгоду з палітыкай Аляксандра Лукашэнкі. 3 ліпеня падчас эстафеты, якую кіраўнік краіны прабег па цэнтры Мінска на лыжаролерах, С.Лапцеў запусціў у яго памідорам. Па некаторых звестках, памідор патрапіў А.Лукашэнку прама ў майку.*

Памідор – 1. Аднагадовая агародная расліна сямейства паслёнавых з чырвонымі або жоўтымі пладамі, прыдатнымі да яды. 2. Плод гэтай расліны *(Тлумачальны слоўнік беларускай мовы)*

Супрацоўнікі міліцыі амаль адразу затрымалі памідоракідальшчыка і даставілі ў Ленінскі раённы аддзел унутраных справаў.

Ноч Сяргей Лапцеў правёў там жа, а на наступны дзень, 4 ліпеня, яго асудзілі да 7 дзён арышту. Пасля доўгіх развагаў суддзя Дзмітрый Жданок не рашыўся інкрымінаваць артыкул аб знявазе гонару і годнасці прэзідэнта, а абмежаваўся «дробным хуліганствам».

Падчас выступу на судзе Сяргей Лапцеў, які цяпер з'яўляецца беспрацоўным, не прызнаў сваёй віны. Ён заявіў, што проста вырашыў прыгадаць старую традыцыю, калі благіх акцёраў закідваюць гнілымі памідорамі. У сваю чаргу, адвакатка памідоракідальшчыка Святлана Гарбаток заявіла: у дзеяннях Сяргея Лапцева няма складу хуліганства – гэта проста своеасаблівы пратэст з элементамі тэатралізаванага прадстаўлення.

Цікава, што, як паведамляе Хартыя'97, слова «памідор» на судовым працэсе над Лапцевым суддзя стараўся не згадваць і замяняў яго на слова «прадмет». Сведкам на судзе выступаў эксперт Крымінальнага цэнтра ГУУС Мінгарвыканкама Вадзім Лагуноўскі, які затрымліваў Лапцева. На судзе В.Лагуноўскі паведаміў, што ён стаяў у трэцім шэрагу і назіраў за ўдзельнікамі спартовай эстафеты. За спіной адчуў рух – кідок. Гэта і стала падставаю для затрымання. Пасля вынясення судовага рашэння Сяргей Лапцеў пад канвоем быў дастаўлены ў спецпрыёмнік-размеркавальнік на вул. Акрэсціна.

Як бы там ні было, але адседжваць за кратамі свой тэрмін 45-гадоваму С.Лапцеву не давялося. Своеасаблівую амністыю для яго ўладкаваў А.Лукашэнка.

*Заканчэнне на стар.3*

## «Маладое» беспрацоўе вырасце

У бліжэйшы час у Беларусі чакаецца павелічэнне беспрацоўя сярод моладзі. У міністэрстве эканомікі гэта тлумачаць дэмаграфічнымі прычынамі: павышэнне нараджальнасці ў сярэдзіне 1980-х прывяло да таго, што сёлета будзе дасягнутая максімальная — за апошнія 10 гадоў — колькасць асобаў, якім споўніцца 16 гадоў. Пры гэтым скарачаецца колькасць вольных вакансіяў на прадпрыемствах.

## Амерыканцу пагражае 10-гадовае зняволенне

Абвінавачанне ў незаконным захоўванні наркотыкаў высунутае грамадзяніну ЗША Чарльзу Пэрыэлу, які пасля выняцця ў яго дома марыхуаны зараз утрымліваецца ў следчым ізалятары КДБ. Яму пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 5 да 10 гадоў.

## У інтэрнэт — з вуліцы

Тэлефонныя апараты з магчымасцю выхаду ў інтэрнэт з'явяцца ў наступным годзе ў шэрагу беларускіх гарадоў. Гэта можна будзе рабіць праз ноўтбук ці іншае прыстасаванне, падключанае да такога тэлефона. Кліент будзе стэлефаноўвацца з правайдэрам, якім верагодней за ўсё стане «Белпак», і праз атрыманы канал выходзіць у інтэрнэт.

## Даведнік для нацыяналістаў

Як паведаміла Радыё «Рацыя», выдавецтвам «Голас краю» выпушчаны даведнік «Беларускі нацыяналізм». Тут сабраныя матэрыялы, прысвечаныя беларускаму нацыянальнаму руху: звесткі пра беларускіх патрыётаў, арганізацыі, асобныя нацыянальныя аддзелы і фармаванні. Каляндар беларускага нацыяналіста дасць магчымасць пазнаёміцца з асноўнымі падзеямі гісторыі нацыянальнага руху, жыццём і дзейнасцю змагароў за Беларусь.

## Рэкламная судовая справа

На 19 жніўня перанесенае чарговае слуханне па справе супраць Белтэлерадыёкампаніі. Справа заведзеная Вышэйшым гаспадарчым судом па іску *AAT Video International*, прадстаўніка інтарэсаў тэлекампаніі НТВ, па фактах замяшчэння БТ рэкламных блокаў расійскай тэлекампаніі сваёй рэкламай. Матэрыяльныя страты скаржнік ацэньвае ў 41 тысячу долараў.

**НАДВОР'Е**

Віцебск +25 +29
Мінск +26 +30
Магілёў +24 +28
Гродна +26 +30
Брэст +26 +30
Гомель +25 +29

Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1410**

# Спроба згуртавання нацыі

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*




Але, пабываўшы на з'ездзе ў першы яго ны дзень, можна было пабачыць, што фобіі спадара Яновіча не спраўдзіліся. Калі, натуральна, не лічыць за апазіцыйнасць канстатацыю эканамічнага занепаду Беларусі, другаснага становішча беларускай мовы, адсутнасці нацыянальнай ідэі і затурбаванасць сур'ёзнымі пагрозамі для суверэнітэту краіны. Самай галоўнай задачай з'езда беларусаў свету агалошана кансалідацыя беларускай нацыі. Дзеля гэтага будзе прынятая праграма пад назвай «Замежная беларуская супольнасць у 21 стагоддзі», разлічаная на тэрмін да 2005 года. У межах гэтай грунтоўнай праграмы будзе змешчаны зварот да беларускай дзяржавы стварыць камітэт па справах беларусаў замежжа. Пакуль што дапамога дзяржавы для нашых суродзічаў за мяжой недастатковая і ажыццяўляецца па прынцыпе выбранасці, гэта значыць тым, хто гаворыць пра прыязнае стаўленне да Аляксандра Лукашэнкі і таго, што ён робіць з краінай. Прыклад: беларускія ўлады праігнаравалі справу стварэння ў Вільні дома-музея Пятры Сергіевіча, і нядаўна ў тым будынку без належнай аховы скралі бронзавую помную шыльду мастаку. І куды ўжо беларусам думаць пра тое, што арганізоўваюць у Вільні палякі. Так яны ўзвялі ў Вільні Дом польскай культуры плошчай на 11 тысяч квадратных метраў і коштам 9 мільёнаў долараў. На думку віленскіх беларусаў, апарата фінансавых складанасцяў, тая ж арганізацыя беларускамоўных класаў у літоўскай сталіцы абцяжарваецца моўнай сітуацыяй унутры Беларусі. Маўляў, навошта вучыць і ведаць мову за мяжой, якая незапатрабаваная нават на Радзіме.

Сярод прысутных на з'ездзе былі такія вядомыя беларусы замежжа, як Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік, старшыня Саюза пісьменнікаў Вольга Іпатава, старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, з палітыкаў – Сямён Домаш. Вітанні з'езду даслалі Барыс Кіт і Ганна Сурмач, старшыня Рады Згуртавання. Яна не прыехала на з'езд, бо жыве ў чэшскай Празе са статусам палітычнага ўцекача. З гэтай прычыны 5-6 ліпеня ў Беларусь на з'езд беларусаў свету не паехалі некалькі дзесяткаў чалавек, якія мусілі б на ім быць.

Так што згуртаванне беларусаў даецца з цяжкасцямі ў прамым фізічным сэнсе. Відаць, згуртавання без загартоўкі не бывае.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Памідорны тэрор

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Відавочна, пасля доўгіх пераканнняў з боку сваіх іміджмейкераў той вырашыў дараваць свабоду былому дэпутату. Як паведаміў Сяргей Лапцеў агенцтву БелаПАН, адразу ж пасля прыняцця судом пастановы аб адміністрацыйным арышце яго даставілі ў аддзел міліцыі Ленінскага раёна, начальнік якога ў «амаль ўрачыстай абстаноўцы» паведаміў аб рашэнні прэзідэнта. Дадзенае рашэнне, патлумачыў ён, кіраўнік дзяржавы прыняў з прычыны таго, што ўчынак Лапцева не выклікаў бядотных наступстваў і, апрача таго, адбыўся ў святочны дзень.

Агенцтва таксама цытуе рэакцыю Сяргея Лапцева на сваё нечаканае вызваленне: «Адчуваю сябе так, быццам папрацаваў на перадвыбарны імідж Лукашэнкі», — сказаў ён. Пры гэтым Лапцеў нагадаў, што ад адміністрацыйных пакаранняў, арыштаў і штрафаў не былі вызваленыя тысячы ўдзельнікаў апазіцыйных акцыяў пратэсту, якія праводзіліся на працягу сямі гадоў кіравання Лукашэнкі. Што ж тычыцца юрыдычнага боку рашэння Лукашэнкі, то, як заявіў былы дэпутат Мінгарсавета, яно незаконнае: прэзідэнт не мае права адмяняць пастанову суда.

Дарэчы, дагэтуль міліцыі так і не ўдалося адшукаць больш паспяховага зламысніка, якому ўдалося падчас той самай эстафеты кінуць у А.Лукашэнку нейкім вострым прадметам. Як вядома, прадмет падрапаў беларускаму кіраўніку нагу і прынёс «пашкоджанні мяккіх тканінаў галёнкаступнёвага сустава». Гэта не перашкодзіла А.Лукашэнку працягнуць гонку і — о, радасць сумленнай перамогі! – прыйсці да фінішу першым. Але некаторыя СМІ паведамляюць, што беларускім праваахоўным органам ужо ўдалося затрымаць некалькі чалавек, якія маглі спрычыніцца да гэтага ўчынка.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# В ногу раненный олень

Кто нанес историческую царапину ноге Александра Лукашенко во время его стремительного пробега на лыжах с колесиками по проспекту Скорины в День освобождения Минска от немецко-фашистских захватчиков? Судя по тому, что ни ретивые персональные охранники, ни переодетые штатные сотрудники милиции, ни внештатные тайные осведомители, ни журналисты, ни зеваки, ни телекамеры не зафиксировали самого эпизода меткого «метания» чего-то увесистого и острого прямо в ногу главному спортсмену страны, этого эпизода, похоже, не было вообще. Есть предположение, что Лукашенко сам себе нанес эту рану лыжной палкой, неловко орудуя ей в пылу гонки с собственной тенью. А чтобы не подмочить свою репутацию всепогодного лыжника обвинил в хулиганстве какого-то зрителя. И теперь мы все сочувствуем Александру Григорьевичу и говорим противной оппозиции: «Фу, какие вы вредные и гадкие! Не станем за вас голосовать!».

Однако эту противную оппозицию никак не обвинишь в том, что она подговорила наш терпеливый белорусский народ забрасывать бывшего всенародного президента гнилыми овощами. Это явная самодеятельность масс. Именно в этот день, при всеобщем внимании, восторге и попустительстве, 45-летний безработный из Минска Сергей Лаптев метнул в Лукашенко помидор и, главное, метко попал в дорогое всем нам тело. На красной майке всенародного спортсмена пятно стушевалось, но Сергей Лаптев немедленно получил всенародную известность и семь суток. Правда Лукашеко его тут же помиловал. Кстати, на Западе очень любят метать в плохих политиков тухлые яйца. А ну, как эта мода перекинется на нас? Это же надо будет ходить во всем желтом.

А теперь давайте зададимся вопросом: а если бы это была граната? Да-а-а! Куда смотрели органы? Почему не предупредили? Для чего откармливают охрану? Для чего вербуют стукачей? Будем ожидать новых серьезных перестановок в силовых структурах.

**Кузьма КУЗЬМИН**

# Пятроўна саступіла без бою

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*


Фота IREXProMedia

У «палатцы» Н.Машэрава зарэкамендавала сябе як упартая прыхільніца палітыкі Аляксандра Лукашэнкі. Па ўсіх асноўных палітычных пытаннях іхнія пазіцыі былі аднолькавыя.

Пасля даволі нечаканага пачатку сваёй перадвыбарнай кампаніі стасункі А.Лукашэнкі і Н.Машэравай пагоршыліся. Беларускі кіраўнік абвінавáціў дэпутатку ў здрадзе, узгадваў, як ён падтрымліваў сям'ю Машэравых у «цяжкія гады»...

Расійскія сродкі масавай інфармацыі называлі Н.Машэраву адной з асноўных фаварытаў перадвыбарнай гонкі, вельмі папулярнай у Беларусі, «Лукашэнкай у спадніцы», больш выгаднай Маскве, чым занадта эмацыйны вусаты дзядзька з мазаічным дыяграмам...

Але варта адзначыць, што расіяне значна пераацэньвалі папулярнасць дачкі Пятра Машэрава. Наўрад ці шмат людзей прагаласавалі б за яе толькі як за дачку славутага бацькі, пры якім у Беларусі быў «камунізм на зямлі». Па-першае, з моманту раптоўнай смерці першага сакратара КПБ прайшло больш за 20 гадоў, і шмат сведкаў тых падзеяў ужо проста няма ў жывых. Апроч таго, вядома, што «светлыя гады» праўлення П.Машэрава шмат у чым былі больш легендай, чым праўдай.

На што сапраўды магла разлічваць Наталля Машэрава, дык гэта на падтрымку пэўнай часткі жанчынаў сярэдняга веку, якія, выбіраючы з вялікай колькасці кандыдатаў, былі б больш схільныя падтрымаць жанчыну – каб толькі супраць Лукашэнкі і ва ўмовах адсутнасці інфармацыі пра ягоных канкурэнтаў.

Некаторыя крыніцы сцвярджаюць, што на Н.Машэраву ўвесь час вёўся беспрэцэдэнтны ціск з боку лукашэнкаўскай адміністрацыі з патрабаваннем зняць сваю кандыдатуру. Пра гэта ўскосным чынам можа сведчыць той факт, што пару тыдняў таму яна адправіла сваю маці Паліну Машэраву ў Маскву – як паведамлялася, на лячэнне.

Яшчэ адзін патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты, былы кіраўнік лукашэнкаўскай адміністрацыі Леанід Сініцын паспяшаўся заявіць, што адмова Н.Машэравай балатавацца ў прэзідэнты – вынік траўлі з боку ўлады. Па словах Л.Сініцына, зняццё кандыдатуры – «адзіна магчымы вымушаны крок», шлях абараніць сябе і сваю сям'ю.

Але магчыма таксама, што Н.Машэрава адчула: збор подпісаў не дае жаданага выніку, і таму вырашыла «захаваць твар», узяўшы самаадвод.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**P.S.** Калі вярстаўся нумар, стала вядома пра эксклюзіўнае інтэрв'ю Наталлі Машэравай агенцтву БелаПАН. У ім экс-кандыдатка патлумачыла, што не жадае ўдзельнічаць у несумленных выбарах. «Шмат якія палажэнні заканадаўства аб выбарах перашкаджаюць правядзенню сумленных выбараў».

Яна назвала сябе «незалежным кандыдатам» і заявіла, што хацела змагацца за кансалідацыю грамадства. «Без майго ўдзелу было пабудавана шмат сцэнараў. Але ўсе яны не маюць да мяне ніякага дачынення. Я не хачу жыць у заапарку і не з'яўляюся ні «подсадной уткой», ні «троянским конём», ні «ёжиком в тумане», сказала Н.Машэрава. Яна паведаміла таксама, што збіраецца і далей заставацца ў палітыцы.

# Лукашенко участвует в акции ЗУБРа «Окончательный диагноз»

1, 2 и 3 июля в Минске проходили народные гуляния. Не пропустили их и активисты движения сопротивления ЗУБР. Несколько десятков человек раздавали наклейки и другие агитационные материалы 2-го июля во время концерта на площади Независимости и возле других сцен, стоящих вдоль проспекта.

3 июля, начиная с полудня, среди отдыхающих прогуливались сотни молодых людей в майках с логотипом движения ЗУБР и призывами «Время выбирать!» и «Долой дурака!». Они раздавали информационные буклеты, а также газеты «Наша Свабода». Восемь зубров были задержаны, но через полтора часа освобождены.

В 3 часа дня милиция согнала людей с проспекта на тротуары, освободив место для проезда колонны лыжников, возглавляемой Лукашенко. Однако вместо этой процессии на проспект вышла колонна из 200 зубров, которая прошла от Октябрьской площади до площади Независимости. На всем пути ребята скандировали лозунги: «Время выбирать!», «Жыве Беларусь!», «ЗУБР – за свободу!», «Долой дурака!» и «Смерть фашизму!», а также вопросы: «Где Захаренко?», «Где Гончар?», «Где Красовский?», «Где Завадский?». Десятки тысяч минчан, стоявшие по краям тротуаров, приветствовали зубров и выкрикивали то же самое.

Дойдя до площади Независимости, колонна разделилась на несколько групп, которые повернули на прилегающие улицы и там разошлись.

Через некоторое время на проспекте появился одинокий лыжник. Это был Александр Лукашенко собственной персоной, который, обильно потея и преодолевая одышку, пытался догнать колонну зубров. Зубры, не принявшие участия в шествии колонны, стояли вдоль пути его следования и кричали: «Фашист, верни Захаренко, Гончара, Красовского, Завадского!»



В соперники Лукашенко были отобраны заведомо более слабые, которым, кроме того, разрешили стартовать лишь через несколько минут после главного мозаичного лыжника страны. Это позволило Лукашенко выиграть летнюю лыжную гонку. Но осенью он проиграет!!!

**Алесь БЕРКУТ**

**КРЫМІНАЛ**

# КДБ арыштавала прафесара

Былы старшыня Саюза палякаў на Беларусі Тадэвуш Гавін назваў «палітычнай правакацыяй» арышт супрацоўнікамі Упраўлення Камітэта дзяржбяспекі па Гродзенскай вобласці Казіміра Конкаля — кіраўніка Саюза польскіх урачоў на Беларусі, прафесара, загадчыка кафедры Гродзенскага медыцынскага ўніверсітэта.

Прафесар Конкаль быў затрыманы ў ноч з 22 на 23 чэрвеня, аднак вядома аб гэтым стала толькі цяпер. Паводле афіцыйнай версіі, Конкаль быў затрыманы ў сваім кабінеце гарадской клінічнай бальніцы. Падставай стала нібыта атрыманне ім хабару ў памеры 50 долараў ЗША ад студэнта — грамадзяніна Пакістана за, як пазначана ў пратаколе, «благоприятное решение вопроса» здачы экзамена. Паводле інфармацыі КДБ, пры затрыманні Конкаль праглынуў купюру. У мэтах следства яго даставілі ў аддзяленне фібрагастраскапіі шпіталя хуткай дапамогі, аднак даследаванні не паказалі наяўнасці купюры альбо яе рэштак у арганізме прафесара.

Па словах Ірыны Конкаль, жонкі затрыманага, напярэдадні арышту ў кабінет да яе мужа завітаў супрацоўнік КДБ. Ён паказаў прафесару нейкі артыкул з замежнай прэсы і хацеў даведацца яго меркаванне на гэты конт; пытаў таксама пра сувязі за мяжой, удакладняў, ці з'яўляецца Конкаль старшынёй Саюза польскіх урачоў на Беларусі. У гэтыя ж дні, як сцвярджае Ірына Конкаль, у мужа зніклі ключы ад кабінета. Па словах Ірыны Конкаль, увесь час пасля затрымання яе муж ўтрымліваецца ў «нечалавечых» умовах: «Цэлы тыдзень яму не даюць гарачай ежы. У чай дадаюць нейкія падазроныя рэчывы. Усё гэта робіцца для таго, каб вырваць з яго любымі шляхамі прызнанне».

Тадэвуш Гавін заявіў БелаПАН: затрыманне Казіміра Конкаля — акцыя, «накіраваная на тое, каб перад прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі запалохаць тую частку польскага насельніцтва, якая расчаравалася ў Лукашэнку і будзе галасаваць за іншага кандыдата». Сапраўднай прычынай гэтай «правакацыі», лічыць Гавін, «з'яўляецца той факт, што Казімір Конкаль у пачатку бягучага года вёў перамовы аб аднаўленні дзейнасці на Беларусі Польскага дэмакратычнага аб'яднання, якое б уключылася ў супрацоўніцтва з беларускім дэмакратычным рухам».

**Павел МАЖЭЙКА, БелаПАН**

# Выбары і БРЖ

*Ашалелыя збіральнічыкі подпісаў лётаюць па гарадах і вёсках. Кандыдаты ў прэзідэнты вылузваюцца са скуры і робяць з сябе вартых жалю штукарроў на розных акцыях масавага ачмурэння. Палітычна заклапочаныя суб'екты гатовыя скруціць адно-аднаго ў бараньні рог, каб давесці перавагу нейкага самавылучэнца над астатнімі.*

Калі бачыш усё гэтае, то спачатку ахопліваe жах. Нібыта 10 верасня ці то зямля ўпоперак пекне, ці то неба перакуліцца. А ўсё праз гэтыя медзі. Вунь, у рэзанацы ўжо атабарыўся нейкі вораг, казаў, што польская ялавічына танней за нашую. Дык чаго лётаць? Будзе ў вас прэзідэнт. То лепей узялі б косы, бо Буйныя Рагатыя Жывёлы (БРЖ) пра выбары нічога не ведаюць.

Гэтую асаблівасць, я б сказаў болей, поўны палітычны індэферэнтызм БРЖ добра ведалі нашыя продкі. Нягледзячы спачатку на росквіт, а пазней і занепад Вялікага Княства Літоўскага, Расейскай імперыі, чарговай Рэчы Паспалітай, Тысячагадовага Рэйху і Непарушнага СССР, яны, дзеля сваіх каровак, нарыхтоўвалі на зіму правіянт, пераважна духмянае сена. І мелі гэткі дзіўны звычай ажно да канчатковай перамогі калгаснага ладу на ўсёй этнічнай тэрыторыі.

Статыстычна гэта перамога зафіксаваная на 01.01.1941 года. Каб зразумець, што потым адбылося з краінаю, трэба было гэтае бачыць. Але не дай Божа гэткае бачыць нікому. Таму мы адразу пераскочым у 1961 г., калі ўсё з большага супакоілася і калгасны лад, здавалася, умацаваўся да другога прышэсця.

Шкодны ва ўсіх адносінах культ асобы быў асуджаны перадавым атрадам працоўных. Ды нешта не тое пачало адбывацца з сялянамі ды іхнімі каровамі. Пры першай магчымасці сяляне хапалі новыя савецкія пашпарты і ўцякалі ад калгаснага шчасця рабіць сацыялістычную урбанізацыю.

БРЖ, у тым ліку каровы, пра гэта не ведалі, і іх рабілася ўсё болей, бо КПСС не шкадавала грошай на індустрыялізацыю сельскай гаспадаркі і збліжэнне горада з вёскай (а чаму не наадварот?).

У выніку тутэйшыя далягляды былі пабэшчаныя лагернага выгляду кароўнікамі, а потым і сянажнымі вежамі ваенна-касмічнага ўзору. Улюбёныя камсамалістымі-будатрадаўцамі сіласныя яміны таксама распаўсюдзіліся.

Тым часам выхаванне чалавека камуністычнага заўтра прывяло да з'яўлення невядомай дагэнуль супольнасці людзей – савецкага народа. Усе без вынятку БРЖ і большасць сялянаў пра гэта не ведалі. Таму двары сялянаў і фізіялогія кароваў тым часам не паспелі змяніцца адпаведна патрабаванням Харчовай праграмы.

Каровы, як ім наканавана, любілі траву і сена, а сяляне, каторыя не паспелі ўцячы ў гарады, старэлі і співаліся ад калгасна-камуністычнага шчасця. Таму сваіх кароваў даглядалі з большага, а на дзяржаўных чым далей, тым болей вымяшчалі сваю любоў да перадавога атрада працоўных.

Падрыгалася дыктатура пралетарыяту яшчэ крыху, ды і выпруцілася. Каровам жа беларускім стала ад гэтага чамусьці яшчэ горай. Сістэма канчаткова сапсавалася. Яе не здольны выправіць нават адміністрацыйны геній усіх вертыкальшчыкаў. Апошнімі гадамі сітуацыя імкліва набывае рысы катастрафічнай. Пра якасць кармоў ніхто не гаворыць нават на селектарных нарадах. Пра што казаць, калі нават умоўных цэнтнераў кармавых адзінак не хапае ўмоўным рагулям пры ўсім аптымізме статыстыкаў.

| ГАДЫ | КОЛЬКАСЦЬ КАРОВАЎ (НА 01.01. АДПАВЕДНАГА ГОДА) | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | прыватных | дзяржаўных | У разліку на 1 сялянскі двор | | |
| | | | прыватных | дзяржаўных | агулам |
| 1941 | 1.648 | 308 | 0,9 | 0,2 | 1,1 |
| 1961 | 1.215 | 806 | 0,8 | 0,5 | 1,3 |
| 1981 | 890 | 1.848 | 0,6 | 1,3 | 1,9 |
| 2001* | 632 | 1.228 | 0,5 | 1,0 | 1,5 |

** – на 1 чэрвеня 2001 г.*

**НАРЫХТОЎКА СЕНА Ў ЛЕПШЫХ У СВЕЦЕ КАЛГАСАХ**

| год | тыс.т. | тыс.га | Дата |
|---|---|---|---|
| 1996 | | 933 | 16.06 |
| 1997 | 62 | 457 | 16.06 |
| 1998 | 100 | 415 | 08.06 |
| 1999 | 183 | 495 | 12.06 |
| 2000 | 95 | 400 | 12.06 |
| 2001 | 70 | 468 | 11.06 |

Вось і сёлета нарыхтавалі сена на 12 чэрвеня аж 74% да леташняга, а летась той жа парой – 52% да адпаведнага ўзроўню пазамінулага года.

Варта згадаць, што ў 1913 годзе ў сучасных межах Беларусі пасвілася і даілася 1.610 тыс. кароваў. Зараз маем 1.860.

Напярэдзе не толькі выбары, але і жыццё. Няхай кандыдаты паедуць у вёску. Няхай кандыдаты падойдуць да калгасных кароваў. Няхай кандыдаты паглядзяць у прыгожыя вочы БРЖ... І пачнуць сваю прамову да іх шчырымі словамі: «Каб вы не здохлі з галадухі, вас зімой зарэжуць».

Выдатная, між іншым, трэніроўка перад тэледэбатамі.

**Мікіта МЯТУЛЬСКІ**




## Чэк «Маёмасць» «падаражэе»

У сувязі з пераацэнкай асноўных фондаў міністэрства па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі Беларусі плануе павялічыць мінімальны кошт імянных прыватызацыйных чэкаў (ІПЧ) «Маёмасць» амаль да 3 тысяч рублёў. Паводле інфармацыі Міндзяржмаёмасці, адпаведныя прапановы ўжо накіраваны ў Нацыянальны сход.

Прыватызацыйныя чэкі налічаны і выдадзены прыблізна 5 мільёнам грамадзянаў Беларусі. Агульная іх колькасць складае 427 мільёнаў. За 7 гадоў чэкавай прыватызацыі ў краіне амаль палова чэкаў была абмененая на акцыі прыватызаваных прадпрыемстваў або спецыялізаваных інвестфондаў; яшчэ каля 220 мільёнаў чэкаў застаюцца на руках у насельніцтва. У Міндзяржмаёмасці са шкадаваннем канстатуюць нізкую актыўнасць насельніцтва пры абмене чэкаў на акцыі: апошнім часам абменьваецца не больш чым 100 тысяч чэкаў у месяц.

Тэрмін абароту ІПЧ «Маёмасць» завяршыўся 1 ліпеня 2002 года. Пры захаванні цяперашніх тэмпаў абмену каля 200 мільёнаў чэкаў могуць застацца нявыкарыстанымі.

**Вольга ПАЛОНСКАЯ**

## Будзь абачлівым – не пацерпіш

Пасольства Чэшскай Рэспублікі ў Беларусі заклікае беларускіх грамадзянаў больш уважліва ставіцца да прапановаў фірмаў, якія прадастаўляюць работу за мяжой. Пасольства выказвае занепакоенасць тым, што беларусы, якія жадаюць атрымаць працу ў Чэхіі, могуць сутыкнуцца з нядобрасумленнасцю некаторых фірмаў.

Як адзначыў у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН часовы павераны ў справах Чэшскай Рэспублікі ў Беларусі Алеш Фойцік, «адкрытасць чэшскай эканомікі правакуе нядобрасумленных прадпрымальнікаў на злоўжыванне чэшскім заканадаўствам. Гэта шкодзіць чэшскаму прадпрымальніцтву і іміджу краіны ў цэлым».

Сп. Фойцік прывёў прыклад з пражскай фірмай «*Kio Ko Technocentr S.R.O.*», уладальнікамі якой з'яўляюцца тры грамадзяніны Расіі; гэтая фірма нядаўна распаўсюдзіла інфармацыю з запрашэннем на працу па розных спецыяльнасцях як у самой Чэхіі, так і ў іншых краінах Еўропы, ЗША і Канадзе. Заяўкі-анкеты гэтай фірмы знайшлі ў сваіх паштовых скрынях некаторыя мінчане. «Хацеў бы папярэдзіць, што на гэтую фірму ўжо падалі ў суд раней падманутыя ёю кліенты, і яна будзе закрытая», – заявіў Алеш Фойцік.

Паводле яго словаў, грамадзяне Беларусі, якія жадаюць працаваць у Чэхіі, павінны папярэдне азнаёміцца з чэшскім заканадаўствам, якое рэгламентуе парадак уладкавання замежных грамадзянаў на працу. Акрамя таго, яны павінны асабіста здаць у пасольства дакументы на атрыманне гадавой візы, у тым ліку даведку з органаў унутраных справаў. Ніводная з фірмаў, што запрашаюць замежных грамадзянаў для працы ў Чэхію, не мае права завочнага афармлення візаў на ўезд. Толькі транзітныя і турыстычныя візы, якія выдаюцца на тэрмін да 90 дзён, могуць быць аформленыя без асабістага ўдзелу таго, хто выязджае, аднак права на працу ў Чэхіі яны не даюць. Пры правеце чэшскай паліцыяй асобы, якія атрымалі работу, парушаючы дзеючае заканадаўства, пазбавяцца яе; прычым грошы, выплачаныя фірме-пасрэдніку, ім, натуральна, ніхто не верне.

Як заявіў сп. Фойцік, пасольства Чэхіі ў Беларусі не мае магчымасці прадастаўляць беларусам інфармацыю аб добрасумленнасці той ці іншай чэшскай фірмы, якая займаецца знешнеэканамічнай дзейнасцю: у Чэхіі такіх фірмаў дзесяткі тысяч. Для «праверкі добранадзейнасці» дыпламат рэкамендуе ўступіць у кантакт з тымі, хто ўжо карыстаўся паслугамі гэтай фірмы, а таксама паспрабаваць высветліць уладальнікаў і памер капіталу фірмы на чэшскіх сайтах у сетцы інтэрнэт.

Паводле словаў сп. Фойціка, існуе таксама шэраг ускосных прыкметаў, па якіх можна вызначыць трываласць фірмы, якая распаўсюджвае анкеты-запрашэнні. Сумненні павінны ўзнікнуць у тым выпадку, калі замест поўнага адраса ўказаная толькі паштовая скрыня, ёсць толькі нумар сотавага тэлефона; гэта азначае, што фірма не мае сапраўднага офіса. Важна і тое, колькі гадоў працуе фірма на рынку.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

# Бояться можно, трусить нельзя

*Пожалуй, предвыборная ситуация в нашей стране определяется жгучим нетерпением, смеем думать, большинства потенциальных кандидатов в президенты победить Лукашенко и очевидным его нежеланием, а может и страхом, потерять поднятую когда-то «из грязи власть».*

Шансы пока есть и у Лукашенко, и у его противников. Для подтверждения этого вывода сошлемся на данные последнего (июньского) национального опроса, проведенного НИСЭПИ (опрошено 1.499 респондентов в возрасте от 18 лет и старше, ошибка репрезентативности не превышает 0.03).

Специалисты НИСЭПИ отмечают, что, по мере приближения выборов, готовность белорусского электората участвовать в них возрастает: 86,8% респондентов на этот вопрос ответили утвердительно. Отрицательный ответ дали только 7,1%, еще 6,1% затруднились ответить. Почти такие же цифры были и в апреле, но при нынешней жесткой формулировке практически все 14,9%, ответивших в апреле «приму решение в зависимости от политической ситуации» выразили готовность голосовать.

По мнению оппозиции, это свидетельствует о стремлении большинства населения к переменам. Результаты нашего опроса не оставляют сомнений: 37,2% респондентов оценивают качество своей жизни как «очень или довольно плохое», 55,7% – как «среднее» и только 6,6% – как «очень или довольно хорошее». Причем только 15,4% верят, что «положение вещей в Беларуси станет лучше довольно скоро», почти три четверти убеждены, что «это займет много времени».

Но тут возникает другой вопрос: насколько стремление к переменам (для многих избирателей точнее было бы сказать «ожидание перемен») связывается с переизбранием А.Лукашенко? Хорошо известна способность белорусского лидера «схватывать» настроения масс, сможет ли он «вписаться» в этот необычный «поворот», использовать этот мощный потенциал стремления к переменам?

Судя по результатам последнего опроса, сегодня эта возможность сведена почти к нулю. На вопрос «Верите ли Вы в возможность увеличения средней зарплаты к 2006 г. в пять раз в случае переизбрания А.Лукашенко президентом Республики Беларусь?» подавляющее большинство опрошенных (58%) ответили отрицательно (положительный ответ дали менее четверти респондентов).

На вопрос «Возможно ли при нынешнем руководстве страны и проводимой им политике значительное улучшение жизни населения Беларуси?» только 36.1% ответили положительно, а 44,2% – отрицательно (остальные затруднились). На прямой вопрос «Высказывается мнение, что А.Лукашенко достойной замены в стране нет, и он должен оставаться президентом еще 5 лет. Что Вы думаете по этому поводу?» лишь 26,6% опрошенных ответили «ему нет достойной замены», почти половина считает, что «ему есть достойная замена, но я не знаю этого человека», еще 12,1% полагают, что «ему есть достойная замена, и я знаю этого человека».

Отсюда следует чрезвычайно важный, на наш взгляд, вывод: избиратели, готовые голосовать за А.Лукашенко, боятся перемен, таким выбором они хотят «восстановить прошлое» или, по крайней мере, «предотвратить будущее». Равно как и наоборот: те, кто хочет перемен, кто думает о будущем, а не о прошлом, не связывают свои надежды с переизбранием А.Лукашенко на второй срок. Особенно хорошо это видно при сравнении оценки перспектив для своих детей в зависимости от того, за кого собираются голосовать респонденты. Среди тех, кто на выборах собирается голосовать за одного из кандидатов «пятерки», вера в улучшение перспектив для своих детей от 47,7% среди сторонников Гончарика до 54% у приверженцев Домаша и Калякина.

Таким образом, респонденты, собирающиеся голосовать за одного из пятерки демократических кандидатов, надеются на улучшение перспектив у своих детей – собственно говоря, эта надежда и является важнейшим мотивом их политического выбора. Совсем иная мотивация у тех, кто собирается голосовать за А.Лукашенко: надеется на улучшение перспектив у своих детей среди них столько же, сколько и не питает никаких иллюзий (39,4% против 39%).

Самый важный вопрос нынешней президентской кампании – это вопрос консолидации демократических сил, направленной на то, чтобы к 9 сентября (или, по крайней мере, ко второму туру) большинство граждан, стремящихся к переменам, смогли голосовать за единого кандидата.

Бояться можно, трусить нельзя...

**Ян БОХАН**

**ЭКСПРЭС**

## Прогнозы, долги, расчеты

### О хлебе насущном

На начало июня задолженность по заработной плате в Беларуси достигла 11,9 миллиарда рублей (8,7 млн. долларов США). По данным министерства статистики и анализа, это на 39,5 процента больше, чем на начало мая. Удельный вес задолженности в месячном фонде заработной платы вырос с 2,8 до 3,7%. Самая высокая задолженность остается на предприятиях агропромышленного комплекса. За май она возросла на 37,5 процента и достигла 8,4 млрд. рублей, что составляет 70,6 процента от общей задолженности. На промышленных предприятиях задолженность составила 2,5 млрд. рублей. Ее удельный вес в фонде заработной платы возрос за месяц с 1,5 да 1,9 процента.

### Кто больше?!

Основной объем иностранных инвестиций в экономику Беларуси в настоящее время поступает из США. Он составляет 22 процента. На долю Нидерландов приходится 17 процентов, Германии – 16. Как сообщил заместитель министра иностранных дел Беларуси Василий Пугачев, выступая на международной конференции-выставке «Инвестиции в Беларуси», около 70 процентов инвестиций направляются в промышленное производство, 15 процентов – в торговлю и общественное питание.

### Шаг вперед – два назад (о жилищном строительстве)

В Беларуси каждый год на одного человека строится 0,35 квадратных метра жилой площади. Об этом сообщил первый заместитель министра архитектуры и строительства Анатолий Шатило. Основной же задачей государства в области жилищного строительства сегодня является его удешевление. Правительством уже принято решение о сокращении на 30 процентов стоимости проектных работ и предпроектных разработок при строительстве жилья, осуществляемого с государственной поддержкой. Отныне стоимость проектных работ будет рассчитываться, исходя из утвержденных предельных норм, а не от сметной стоимости строительства, как это было раньше, хотя о «пользе» подобного нормирования знает любой, более или менее образованный, гражданин.

**Андрей КАРПОВИЧ**

# Уцёкі ад эскадрону сьмерці

**Джэксан ДЗІЭЛЬ, Вашынгтон Пост**

*Пятага жніўня мінулага года Зьміцер Петрушкевіч разам са сваімі калегамі з крымінальнага росшуку былой савецкай рэспублікі Беларусь арыштаваў некалькі мясцовых галаварэзаў, што падазраюцца ў жорсткім забойстве і крадзяжы. Пры вобыску, праведзеным у аднаго зь іх дома, быў знойдзены газэтны матэрыял–інтэрвію зь вядомым беларускім журналістам Зьміцерам Завадзкім – аператарам расейскага тэлеканалу, які, пасьля нашумелага скандалу з рэжымам Аляксандра Лукашэнкі, бяз зьвестак зьнік каля месяца таму.*

Некалькі тыдняў таму Петрушкевіч паказаў сябе ў эпіцэнтры падзеяў, якія выходзілі далёка за рамкі банальнага забойства і нават вядомага выкраданьня Зьміцера Завадзкага. Затрыманыя, як высьветлілася, былі часткай банды, якую ўзначальваў падпалкоўнік элітнага падразьдзяленьня САХР. Калі яго затрымалі, афіцэр прызнаўся ў тым, што яму вядома месца пахаваньня цела Завадзкага. Аднак калі дэтэктывы паспрабавалі капнуць глыбей, у справу ўмяшаўся асабіста прэзыдэнт Лукашэнка. Ягоным загадам былі зьнятыя з пасадаў генэральны пракурор і шэф КДБ, а падпалкоўнік наадварот выпушчанны з пад варты, і нават атрымаў узнагароду.

У мінулым месяцы Петрушкевіч разам з іншым пракурорскім супрацоўнікам Алегам Случакам папрасілі сховішча ў Злучаных Штатах Амэрыкі. Яны заявілі, што ім дакладна вядома пра тое, што забойцы Завадзкага былі часткай дзяржаўнага эскадрону сьмерці, які за тры гады свайго існаваньня зьдзейсьніў каля 30 забойстваў, разам з забойствамі найбольш вядомых палітычных праціўнікаў Лукашэнкі. Яны таксама адзначылі, што іх, сьледчых, якія напалі на сьлед ісьціны, у будучым чакала аналягічная расправа. «Яны адпрацавалі схему ідэяльнага забойства, — кажа Петрушкевіч: як раптам высьветлілася, што мы зьяўляемся наступнымі мішэнямі».

Гэтая жахлівая гісторыя фізычнай расправы асобаў, няўгодных дзяржаве, адбылася ў краіне з насельніцтвам у 10 мільёнаў, што знаходзіцца ў самым цэнтры Эўропы, паміж Польшчай і Расеяй. Тым ня меньш ейны прэзыдэнт Аляксандар Лукашэнка вядомы як адзін з самых адпетых тыранаў на зямлі – чалавек, які сфабрыкаваў выбары, арганізоўваў змовы па ўзнаўленьню Савецкага Саюзу і, падобна, замовіў забойствы сваіх апанентаў, не прыцягваючы ўвагі міжнароднай грамадзкасьці, як у свой час рабілі Слабадан Мілошавіч і Аўгуста Пінача.

Ведаючы гэта, Петрушкевіч і Случак рызыкнулі жыцьцём і спадзяюцца, што іхнія зьвесткі пра злачынствы банды вымусяць беларусаў, а таксама ўрад краінаў Захаду й Расеі, настойваць на зьмене сытуацыі.

Двое маладых сьледчых на мінулым тыдні прыбылі ў Вашынгтон з іншага амэрыканскага горада, дзе яны на дадзены момант хаваюцца, з тым, каб прадаставіць доказы датычнасьці ўраду Лукашэнкі да замоўленых забойстваў. Часткова іхняя версыя падцьверджана самімі ўладамі, якія працягваюць трымаць у заключэньні чацьвярых падазроных у забойстве Завадзкага, якія былі затрыманыя ў жніўні мінулага году. Усе затрыманыя ў мінулым супрацоўнікі ваенізаванай брыгады й прыхільнікі ваеннай нацыяналістычнай групоўкі, якая, як і Лукашэнка, марыць уз'яднацца з Расейскай імпэрыяй.

Петрушкевіч й ягоныя калегі па крымінальнаму росшуку прыйшлі да высновы, што зьвесткі вачавідцаў выкраданьня Завадзкага і трох іншых палітычных дзеячаў, выяўляюць наступную заканамернасьць – ва ўсіх эпізодах прысутнічалі дзяржаўныя аўтамабілі з зацемненым шклом, якое хавала твары падазроных. Сьледчыя таксама высьветлілі ад крыніц у беларускім КДБ, што такога кшталту аперацыі па выкраданьню й забойству крымінальных аўтарытэтаў былі пасьпяхова праведзены эскадронам сьмерці ў 1998 годзе.

Найбольш бянтэжыць частка гісторыі аб чалавеку, які застаецца на свабодзе: Зьміцер Паўлючэнка , камандзір элітнага падразьдзяленьня МУС хуткага рэагаваньня, якое разьмясьцілася на адной з ваенных базаў непадалёку ад Менску. Сувязь паміж Паўлючэнкам і астатнімі членамі банды была выяўлена са словаў чалавека, якога бандыты выкралі, але пакінулі ў жывых – фінансавага супрацоўніка міністэрства культуры, які трапіў у няміласьць пасьля таго, як адкрыў справу па абвінавачваньню ў махлярстве супраць уплывовага прадстаўніка Дзяржцырку.




Зміцер Паўлючэнка, які, згодна аўтара артыкула, быў затрыманы следчымі КДБ і вызвалены з волі Лукашэнкі

З дазволу свайго начальніка генэральнага пракурора краіны Алега Бажэлкі й шэфа КДБ Уладзімера Мацкевіча, сьледчыя арыштавалі Паўлючэнку 21 лістапада мінулага году. Ён прызнаў сваю сувязь з раней затрыманымі па справе Завадзкага і заявіў, што цела журналіста закопана на полі паблізу Паўночных могілак. Бажэлка і Мацкевіч неадкладна аддалі ўказаньне правесьці пошук трупа і адправілі сьледчую брыгаду для вобыску офісу Паўлючэнкі.

Аднак у гэты самы момант умяшаўся Лукашэнка. Ён зьняў Бажэлку, Мацкевіча і, на ўсялякі выпадак, міністра культуры, які заступаўся за «заблукалага» чыноўніка. Прэзыдэнт вызваліў Паўлючэнку і публічна павыбачаўся перад ім за арышт. Ніхто і азірнуцца не пасьпеў, як Лукашэнка прызначыў новым генэральным пракурорам Віктара Шэймана – таго самага, якога сьледчыя назвалі сувязным паміж самім Лукашэнкам і эскадронам сьмерці.

Прадстаўнікі Адміністрацыі Буша заяўляюць, што з усёй сур'ёзнасьцю адносяцца да гісторыі Петрушкевіча й Случака. Цікава, што ўрад Уладзімера Пуціна, у якога маса рычагоў для таго, каб зьняць Лукашэнку, здавалася, быў таксама заінтрыгаваны. Дэтэктывы кажуць пра тое, што іх былыя начальнікі Мацкевіч і Бажэлка пакінулі Беларусь і на дадзены момант знаходзяцца ў Маскве.

**www.charter97.org**

ТЭНДЭНЦЫІ

## Еўрапейскі ізгой

### *Як мінімум да прэзідэнцкіх выбараў Беларусь застанецца еўрапейскім ізгоем*

Цягам ліпеня Беларусь наведае «тройка» Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы: кіраўнік Палітычнага камітэта ПА СЕ Тэры Дэвіс, дакладчык камітэта па Беларусі Вольфганг Берандт і прадстаўнік камітэта па юрыдычных пытаннях і правах чалавека Кірыл Свобада. Ад вынікаў іхняга візіту залежыць, ці накіруе ПА СЕ сваіх наглядальнікаў на прэзідэнцкія выбары, якія маюць адбыцца 9 верасня. Такую інфармацыю з сесіі ПА СЕ, якая прайшла мінулым тыднем у Страсбургу, прывёз віцэ-спікер Вярхоўнага Савета 13 скліканння Анатоль Лябедзька.

Групы ліберал-дэмакратаў і рэфарматараў ПА СЕ прынялі жорсткую заяву з нагоды недэмакратычнага фарміравання тэрытарыяльных камісіяў па выбарах прэзідэнта. «Група ліберал-дэмакратаў і рэфарматараў ПА СЕ, якая аб'ядноўвае 84 прадстаўнікоў з 34 краінаў, разглядае будучыя прэзідэнцкія выбары як рэальную магчымасць прарыву самаізаляцыі Беларусі. Група ЛДР выказвае глыбокую занепакоенасць тым фактам, што прадстаўнікі дэмакратычных палітычных партыяў і патэнцыйных кандыдатаў на пасаду прэзідэнта не былі ўключаныя ў склад тэрытарыяльных выбарчых камісіяў на раённым і гарадскім узроўнях», – гаворыцца ў заяве. «Выбарчыя камісіі мусяць фарміравацца на плюралістычнай аснове. Калі гэтага не адбываецца, то ёсць складанасці ў прызнанні легітымнасці такіх выбараў», – удакладніў А.Лябедзька. Бліжэйшым часам, па словах віцэ-спікера, з аналагічнай заявай плануюць выступіць генеральны сакратар Савета Еўропы Вальтэр Швіммер і прэзідэнт ПА СЕ лорд Расел Джонсан.

«У нас было некалькі прыярытэтаў, і прыярытэт №1 – мы павінныя былі біць у званы трывогу з нагоды падобнага фарміравання камісіяў. Бо мы разумеем, што выбарчыя камісіі – тое месца, дзе адбываецца падлік галасоў. Калі мы не зменім тэндэнцыю і такім жа чынам будуць сфарміраваныя камісіі на ўзроўні ўчасткаў, то можна гаварыць, што выбары ў Беларусі адбыліся, і выбіраць будзе не народ, а тыя людзі, якіх Лукашэнка ўключае ў выбарчыя камісіі», – заявіў Анатоль Лябедзька.

Між тым, 6-10 ліпеня ў Парыжы праходзіць сесія Парламенцкай асамблеі АБСЕ. Напярэдадні Мандатная камісія ПА АБСЕ вырашала: каго – Вярхоўны Савет 13 склікання ці палату №2 – прызнаваць легітымным беларускім парламентам. Да сёлетняй зімы ў гэтай якасці прызнаваўся ВС, аднак 9 студзеня закончыўся яго пяцігадовы тэрмін паўнамоцтваў. Таму Пастаянны камітэт ПА АБСЕ прыняў саламонава рашэнне: пакінуць месца Беларусі пустым. Мандатная камісія заслухала справаздачу Уты Цапф з Германіі і Урбана Алін са Швецыі, якія 30 чэрвеня – 2 ліпеня вывучалі сітуацыю на Беларусі ў часе сустрэчаў як з прадстаўнікамі апазіцыі, так і афіцыйнага Мінска.

Такім чынам, першы этап прэзідэнцкіх выбараў: фарміраванне тэрытарыяльных выбарчых камісіяў – прадэманстраваў Еўропе, што Беларусь не збіраецца выходзіць на шлях дэмакратызацыі. Ужо відавочна, што як мінімум да прэзідэнцкіх выбараў наша краіна будзе заставацца еўрапейскім ізгоем.

У Парыжы ВС прадстаўляюць віцэ-спікер Анатоль Лябедзька, Уладзімір Кудзінаў, камуніст Віктар Хоміч і намеснік старшыні АГП Яраслаў Раманчук – у якасці сакратара дэлегацыі. Дэлегацыю ў такім некалькі дзіўным складзе сфарміраваў прэзідыум ВС 21 чэрвеня.

**Рыгор БУЯН**

# Несбывшаяся мечта

## *От «пятерки» ждут достойного поступка*

Сорок дней назад умерла моя знакомая. Ей было чуть больше пятидесяти. Красивая, веселая, с блестящими черными глазами, она источала оптимистическую энергию, которая заряжала ее учеников, друзей, знакомых. Жить ей, бывшей певице, а потом учительнице хорового пения, на маленькую школьную зарплату было нелегко. Накопленные когда-то деньги «сгорели» от инфляции. Думала она о своем будущем, надеялась, что еще станет на ноги, поедет отдыхать или поработать в Германию и заработает много денег. Но погасла ее свеча, и осталась после нее только одна собачка Люся с кровоточащей забинтованной ножкой.

Почему такой ранний уход из жизни красивого и энергичного человека? Потому, что таких, как она, – ярких, бесхитростных, бросающихся на помощь другим, ненавидящих хамство и вседозволенность – не так много среди ее поколения.

Вспомните себя молодыми, студентами вузов. Как часто вы возмущались на лекциях по истории КПСС, когда преподаватель занудливо нес полнейшую чепуху о главной и направляющей силе? Ведь многие уже тогда читали Александра Солженицына, знали о репрессиях, хранили в домашних альбомах фотографии сосланных и не вернувшихся родственников. Кто шел на смелые поступки, на вызовы общественным устоям, получал по голове. Единицы, решившие поднять голос, заявить вслух о том, что печаталось в толстых журналах, расплачивались выговорами в комсомольских карточках, проработками на собраниях, отчислениями из университетов или службой в армии после студенческой скамьи. То испытание на гражданское мужество поколение, родившееся в начале пятидесятых годов, пройти не смогло. Они, умные, начитанные, уже не верящие официальной пропаганде, но еще не поверившие в самих себя. Если у кого-то случалась беда, если кого-то отчисляли из университета за антисоветскую деятельность, никто не приходил на помощь, никто не писал писем в поддержку, никто не открывал начальственных кабинетов. Все молчали. А идеологическая машина, лишая воли и разума, раздавливая семена вольнодумства, делала их покорными очередниками за дипломами. За счет всеобщего смирения и безразличия власть творила все, что ей угодно – строила БАМы, зарывала деньги в мелиорацию, посылала солдат на афганскую смерть.

После окончания вуза, начав карьеру – преподавательскую, инженерную, милицейскую, стало это поколение вступать в КПСС, хотя уже не верило ни в Бога, ни в черта, ни в коммунистическую идею. Почти все заняли очередь за получением другой «корочки» — партийного билета. Встречаясь с секретарем партбюро, улыбались, раскланивались, интересовались, когда придет «единица» из райкома. Не понимали тех, кто не становился в затылок, и называли чудаками тех, кто отказывался это делать по идеологическим соображениям. Как ни странно, уже тогда слушали радио «Свобода», знали о советских диссидентах, смутные чувства – страха и сопереживания – испытывали по отношению к Андрею Сахарову, но на всех собраниях поднимали руки в поддержку партии и правительства. На наших покорных спинах продолжала восседать советская власть. И все терпели ее новые фокусы – три года тюрьмы за ведро картошки с колхозного поля, пятнадцать лет тюрьмы за диссидентский документ, высылку из страны Иосифа Бродского и Мстислава Ростроповича.

Пережив советское время и все перепетии перестройки, поколение, родившееся в начале пятидесятых годов, тем не менее, не избавилось от синдрома молчаливого, покорного и завистливого очередника. Не поняло оно в 1991 году, что можно было взять судьбу страны в собственные руки. И по примеру прибалтов строить свое государство, не вставая в очередь к кремлевским властителям. Но бывшие тихие студенты, превратившиеся в бесхребетных министров, поехали в Москву за деньгами и покровительством. И получили экономическую, политическую и информационную зависимость. Наш двор стал проходным для восточного соседа. Еще полбеды, если бы сосед был трезвым и работящим. А так ведь приходится ходить по воду во двор, где встречаются и пьяницы, и ворье, бандиты с ножичками.

В 1994 году, когда к власти пришел Лукашенко, многие из поколения, родившегося в начале пятидесятых, пошли к нему в услужение. Не разгадав с первых телевизионных интервью его природу мистификатора, манипулятора и беззастенчивого лжеца, встали они в новую очередь – за должностями, льготами, почестями и депутатскими креслами. Через несколько лет ощутив все прелести разогнанного Верховного Совета, капитализма с человеческим лицом для одного лица, у многих прошло желание оставаться в этой очереди.

Но как и раньше, все зная и все понимая, бывшие покорные студенты и нынешние бесхребетные министры и предприниматели, придерживаются старой стратегии – не высовываться, не возмущаться, не перечить правителю. Похоже, их не особенно беспокоит судьба пропавших политиков – Юрия Захаренко, Виктора Гончара и его спутника Анатолия Красовского, журналиста Дмитрия Завадского. Послушайте, люди добрые, мои бывшие однокурсники, преподаватели и некоторые депутаты, заседающие в Палате представителей. Чтобы вы делали, если бы у вас пропали близкие – родители или дети? Вы бы молчали и отсиживались на своих креслах? Если до вас не доходит, позвоните Ольге Захаренко и спросите ее, как она живет. Или посмотрите в глаза Юры Завадского, сына исчезнувшего оператора. Ужасные политические преступления творятся на белорусской земле. А вы молчите и, вероятно, верите в новые мистификации власти. Для того чтобы скрыть преступления, она не устает повторять, что, мол, Тамара Винникова исчезла и нашлась, что Олег Божелко исчез и нашелся. И подсовывает вам, молчунам, вывод о том, что и остальные известные люди найдутся.

Немаленькая очередь сегодня образовалась к президентскому посту. Двадцать претендентов и почти все из поколения начала пятидесятых годов. Как поведут себя в предстоящие месяцы эти очередники? Станут ли они в затылок к одному благодетелю, завидуя и ненавидя друг друга, либо порвут со старой дурацкой привычкой? Понятно, что среди кандидатов есть совершенно случайные люди, не обладающие ни опытом, ни знаниями, ни моральными ценностями. Желание покрасоваться, «накосить бабок» или получить должность – вот ставка в их игре. Но есть вполне достойные люди, пострадавшие от нынешней власти, знающие, как управлять государством, желающие добра своему народу. Они не имеют права вставать друг за другом в очередь, конкурировать между собой, забывая о сегодняшней миссии. Они должны совершить достойный поступок – определить из своего круга одного демократического кандидата.

На чаше весов лежит жизнь каждого из нас. И мне не хочется повторять судьбу моей знакомой учительницы пения, ушедшей из жизни в пятьдесят лет от нищеты и болезни и оставившей после себя только одну собачку Люсю с кровоточащей забинтованной ножкой.

**Людмила ГРЯЗНОВА,**
**депутат Верховного Совета,**
**член оргкомитета Хартии 97**

ВІТРАЖ

## Роднасныя душы

Аляксандр Лукашэнка лічыць, што «чорная паласа» ў жыцці дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Паўла Барадзіна хутка пройдзе і наперадзе ў яго — «вельмі шмат светлых хвілінаў». Пра гэта ён заявіў журналістам пасля лёгкаатлетычнай эстафеты ў гонар Дня Рэспублікі, якая прайшла ў Мінску 3 ліпеня.

На пытанне, ці не дыскрэдытуе прэзідэнта Беларусі з'яўленне ў яго асяроддзі Барадзіна, які знаходзіцца пад следствам, Лукашэнка адказаў: «Ведаеце, за апошнія месяцы жыццё яго паматала. Я думаю, ён убачыў, хто ёсць хто, дзе сапраўдныя людзі. Я лічыў патрэбным падтрымаць яго і абараніць. Можа быць, і з-за гэтага Барадзін з душой ставіцца да нашай краіны і да мяне ў тым ліку».

**Наталля КУЛАГІНА**

## Из Беларуси к Атлантическому океану

Наш соотечественник Виктор Зиборов отправился на надувной лодке через всю Западную Европу к Атлантическому океану. Более 20 лет тому назад Виктор попал в аварию и с тех пор ездит на инвалидской коляске. Но и это не помешало 53-летнему белорусу предпринять столь нелегкое и рискованное путешествие. Свой понтон, у которого даже нет мотора – лишь весла, с закрепленной на нем инвалидской коляской Виктор Зиборов спустил в середине июня на реку Нарев под Белостоком, куда доехал из Беларуси поездом. Закончится плавание в Бордо во Франции – если повезет с погодой и хватит сил, либо несколько ранее – в Амстердаме, а продлится оно более 2 месяцев.

Готовился белорус к этому плаванию два года. И хоть ни один банк не хотел ему дать кредит, но все же необходимые средства удалось собрать. Любящий, по его выражению, «испытывать судьбу», Виктор в этом году наконец купил лодку и разработал «трансевропейскую» трассу.

Польша встретила белоруса весьма приветливо. Плотину на Нареве Виктору помогли преодолеть местные жители, перенося его вместе с его лодкой. Часто совершенно чужие люди приносят ему еду. В Варшаве, где Виктор пробыл 3 дня, о нем позаботились работники военного яхт-клуба и местной речной полиции. Вот как начинание нашего земляка прокомментировал комиссар речной полиции: «Мы были под впечатлением предпринятого белорусом путешествия – все-таки река полна неожиданностей, на Висле весьма сильное течение. И нам было очень приятно помочь, чем могли, Виктору, поскольку такие фанатики (в хорошем смысле этого слова) водной туристики все-таки встречаются не часто».

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ**

## Беларусы выйшлі ў паўфінал

Беларускія тэнісісты Уладзімір Валчкоў і Максім Мірны працягваюць паспяховае выступленне ў парным разрадзе Уімблдонскага турніру. 4 ліпеня ў чвэрцьфінале яны ў цяжкай барацьбе перайгралі чэшскую пару (пасеяна пад сёмым нумарам) Пётр Пала — Павел Візнер — 7:6 (7:4), 5:7, 3:6, 6:4, 9:7.

У паўфінале беларусаў чакае змаганне з амерыканцамі Дональдам Джонсанам і Джарэдам Палмерам (пасеяны пад чацвёртым нумарам).

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН**

## Сеанс аднačасовай гульні

Незвычайнае відовішча назіралі ў святочны дзень спачатку мінчане, а потым і тэлегледачы рэспублікі ўвесь вечар, калі ўпершыню на галоўным праспекце краіны адбыўся масавы, усяго з 14 камандаў, лёгкаатлетычны прабег, у якім першую скрыпку выконваў сам Аляксандр Рыгоравіч. Удзельніка ў трусах зусім не збянтэжылі гледачы, некаторыя з якіх нешта нават кідалі ў ягоны бок, ні тым больш грозныя, славутыя сапернікі. Як і на «мінскай лыжні» зімою ў Раўбічах, А. Р...упэўнена ішоў да перамогі, не пакінуўшы шансаў ніводнаму з алімпійскіх і сусветных чэмпіёнаў, якія што было моцы імчаліся за ім. (Толькі зараз мне асабіста стала зразумелым, чаму мы не «хапаем зорак» на розных спартыўных форумах. Відаць, не тых возім.) Зноў яму не было роўных, перавага на фінішы аказалася вельмі адчувальнай. Як вызначылася, сапраўднаму майстру – без розніцы, як бегчы: на лыжах па снезе ці па асфальце на лыжаролерах. Як кажуць у народзе, талент не прап'еш!

Што «адчыбучыць» пераможца ў другі раз, канешне, невядома. Чамусьці прыгадваецца тут кот Матроскін, які любіў мяўкаць: «Я яшчэ вышываць магу. Крыжыкам».

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

# Глобализация и саммит в Генуе

**Джеффри Д. Сакс, директор Центра Международного Развития Гарвардского университета.**

*Встреча руководителей богатых стран «большой восьмёрки» состоится в Генуе, в Италии, в середине июля, на фоне демонстраций протеста против глобализации и полицейских кордонов.*




Как демонстранты, так и лидеры «большой восьмёрки» будут обвинять друг друга в непонимании реалий глобализации. Руководители «большой восьмёрки» будут утверждать, что глобализация не только неизбежна, но и благоприятствует развитию. Протестующие будут заявлять, что пропасть между богатыми и бедными углубляется. И та, и другая группы не говорят всей правды.

Руководители «большой восьмёрки» подчёркивают, что бедной стране для стабильного экономического роста жизненно необходима свобода торговли, поскольку изолированная от мировых рынков бедная страна не имеет никаких перспектив экономического развития. Тем не менее, существует более сложная картина реальности. Свобода торговли является необходимым условием экономического роста, но этого одного условия далеко не достаточно. Глобализация способствует экономическому росту только ряда развивающихся стран, оставляя за бортом сотни миллионов и даже миллиарды людей, в том числе многих беднейших людей на планете. Утверждая, что глобализация помогает всем, страны «большой восьмёрки» создают нереальную картину происходящего, провоцируя негативную реакцию на процессы глобализации.

Самый эффективный путь экономического роста для бедных стран состоит в том, чтобы стать частью мировых производственных систем транснациональных компаний. Компании создают рабочие места в странах с низким уровнем заработной платы либо путем прямых капиталовложений в экономику этих стран, либо находя в них поставщиков, изготавливающих продукцию в соответствии с техническими требованиями этих компаний. Затем эта продукция экспортируется на мировые рынки, при этом часто в ту страну, где находится штаб-квартира транснациональной компании.

Процесс глобализации производства способствует как снижению стоимости продукции, производимой богатыми странами, так и созданию в бедных странах новых рабочих мест, приобретению ими опыта в области высоких технологий и обеспечению притока инвестиций. В итоге бедная страна может от простого поставщика запчастей «дорасти» до новатора-рационализатора. Например, Корея, Тайвань, Израиль и Ирландия начали свою быструю индустриализацию не так давно (всего одно поколение назад), производя стандартные продукты для транснациональных фирм. А сейчас они сами имеют экономику, основанную на высоких технологиях.

Основная проблема, связанная с глобализацией, заключается в том, что значительная часть развивающихся стран не вовлечена в этот процесс. Прямые зарубежные инвестиции, приходящиеся на страны Северной и Южной Америки, размещены главным образом в Мексике, некоторых странах Центральной Америки и в странах Карибского бассейна, то есть в странах, расположенных рядом с Соединёнными Штатами. Страны Южной Америки, которые расположены дальше от США, получают значительно меньше таких инвестиций. В результате Мексика в последние годы пережила быстрый экономический рост, – получая выгоды от быстрого роста доходов, увеличения числа рабочих мест и экспорта товаров в США, – в то время как страны Южной Америки развивались значительно медленнее или даже приходили в упадок.

Схожие ситуации имеют место в Европе и в Восточной Азии. Европейские транснациональные компании осуществляют крупные капиталовложения в такие, граничащие с Западной Европой, страны с низким уровнем заработной платы, как Польша, Венгрия, Чешская Республика, в то же время значительно меньше средств инвестируется в экономику стран, расположенных дальше, таких, например, как Румыния или Украина. В Азии зарубежные инвестиции тайваньских фирм направляются в прибрежные провинции Китая, а не в бедные континентальные регионы этой страны. Япония предпочитает вкладывать капитал главным образом в соседние страны Восточной Азии, а не в далёкую Индию.

Таким образом, развивающиеся страны, расположенные по соседству с богатыми странами, имеют больше преимуществ по сравнению с удаленными развивающимися странами. Польша имеет преимущества в торговле и инвестициях по сравнению с Россией, поскольку Польша скоро станет членом Евросоюза, что гарантирует доступ на рынки Западной Европы.

Итак, среди развивающихся стран некоторые очень сильно выигрывают от глобализации, но многие страны не имеют возможности воспользоваться её плодами. В действительности во многих странах происходит явное падение уровня жизни. Одна из проблем заключается в том, что, поскольку мы живём в мире высокой мобильности людей и капитала, квалифицированные работники уезжают из отдалённых регионов в более благодатные места. Так, несмотря на то, что ситуация с заболеваемостью в Африке весьма серьёзная, тысячи африканских врачей эмигрируют в США, Европу и на Ближний Восток в поисках достойного уровня жизни. В данном случае, за счёт глобализации этот кризис в Африке может усилиться.

Разумный диалог между сторонниками и противниками глобализации должен начинаться с признания того факта, что, хотя глобализация и приносит очень большую пользу многим бедным странам, немало стран остаётся за бортом и прозябает в нищете, и, возможно, отчасти нищета растет как раз из-за глобализации.

На предстоящей встрече руководители «большой восьмёрки» должны взять на себя обязательства по списанию долгов тем странам, которые находятся в наиболее отчаянном положении, и направить миллиарды долларов на борьбу с болезнями, особенно со СПИДом, малярией, туберкулёзом и другими болезнями-убийцами. Лидеры «большой восьмёрки» должны создать новый механизм помощи, который позволил бы беднейшим из бедных воспользоваться преимуществами современных высоких технологий.

Если бы страны «большой восьмёрки» показали миру, что они понимают как положительные, так и отрицательные реалии глобализации, и что они готовы оказать помощь тем, кто отстаёт всё больше и больше, то опасному углублению противоречий между сторонниками и противниками глобализации был бы положен конец – по крайней мере, можно было бы говорить о «начале конца».



# Срэбра, золата, срэбра...

Заўтра на чэмпіянаце краіны па футболе будуць згуляныя матчы дванаццатага тура, а яшчэ праз тыдзень будзе пройдзена палова ўсёй дыстанцыі. Нягледзячы на вынікі ўсіх астатніх сустрэчаў у гэтых апошніх турах, лепшай камандай першага круга датэрмінова стаў барысаўскі БАТЭ. Адрыў ад бабруйскай «Белшыны», якая яго праследуе, складае ўжо сем ачкоў. У апошняй, дарэчы, сотай для іх гульні за ўвесь час выступлення ў вышэйшай лізе футбалісты Юрыя Пунтуса весела адзначылі юбілей перамогай над «Маладзечна-2000» з лікам 6:3, прычым тройчы вызначыўся лепшы бамбардзір клуба Віталь Кутузаў, які цяпер з 12 мячамі аднаасобна ўзначальвае спіс самых трапных нападаючых.

Толькі чацвёрты сезон мы з задавальненнем назіраем майстэрства маладых барысаўцаў, якія пакуль ні разу не апускаліся на прыканцы трох папярэдніх турніраў ніжэй другога месца. І калі калектыў дзесьці намеціў для сябе стварэнне незвычайнай традыцыі – станавіцца чэмпіёнамі менавіта ў няцотныя гады, дык на фінішы спаборніцтваў мы зможам стаць сведкамі іх «залатога» дубля. Срэбра, золата, зноў срэбра, а зараз... І ўсе падставы для паўтору поспеху двухгадовай даўнасці футбалісты з перыферыі маюць. 9 перамогаў, толькі дзве нічые — як тут падобраму не пазайздросціць. Адзінае, што, канешне, сапсуе настрой аматарам футбола з Барысава, дык тое, што з кожным днём набліжаецца час развітання з самым маладым таленавітым нападаючым краіны Віталем Кутузавым. Хутка завершыцца ягоны кантракт з клубам, і 21-гадовы хлопец адправіцца ў адзін з вядомых калектываў Еўропы. Дарэчы, БАТЭ не першы раз «дэлегуе» сваіх лепшых выхаванцаў у славутыя каманды. Першым быў Рындзюк, потым Глеб і вось зараз Кутузаў. І калі прытрымлівацца нейкай логікі, калі першаму з іх не зусім пашанцавала, другі «раскрыўся» за мяжой больш, дык Віталя павінна чакаць амаль не шчаслівы лёс кіяўляніна Шаўчэнкі, гульня якога яму так даспадобы. Але хто ведае, што чакае кожнага з нас у будучыні...

Другую сустрэчу запар прапусціць на «сваім» чэмпіянаце некалі флагман беларускага футбола — «Дынама» з Мінска. Але на гэта ёсць важкая прычына: сталічныя спартсмены працягваюць выступленне можа і не ў вельмі прэстыжным, але вядомым розыгрышы Кубка Інтэртота. Тры гады, з-за няўдалай гульні ў нацыянальных першынствах, мінчане не мелі доступ да рознага роду міжнародных футбольных фэстаў і вось толькі зараз цвёрда вырашылі трапіць у футбольную эліту. Пачынаць прыходзіцца амаль з нуля, практычна без рэйтынгу, з першага раунда таго ж Інтэртота, які яны паспяхова ўжо прайшлі, і далей, у другім крузе, хаця і маюць саперніка мацней за люксембургскі «Хобшайд», але вынік першага хатняга паядынку супраць ізраільскага «Хапаэля» наглядна прадэманстраваў, што і ён былому лідэру айчыннага футбола па зубах. Скептыкі могуць прававаць, што госці з Хайфы прыехалі да нас без асноўных гульнякоў, выставіўшы на матч ледзь не дубліруючы састаў. Гэта так, але, паглядзіце, на сваім полі ў матчы заўтра, склад трэцяй каманды Ізраіля па выніках апошняга чэмпіянату значна зменіцца, таму што параза з лікам 0:2 па еўракубкавых мерках — яшчэ не абавязковая гарантыя агульнага поспеху. Ну, а перад «Дынама» стаіць канкрэтная задача: прайсці ў турніры як мага далей, каб зарабіць на гэтым грошы, набыць такі неабходны міжнародны вопыт і, дарэчы, узняць той самы рэйтынг, з якім, напрыклад, у наступным годзе, нават у тым жа самым Інтэртота, не прыйдзецца пачынаць сярод слабейшых, а ёсць магчымасць уключыцца ў барацьбу, як нямецкі клуб бундэслігі «Вольфсбург», з трэцяга раунда. Выгада, па ўсіх мерках, відавочная. Самая меншая з якіх – не прыйдзецца прапускаць столькі сустрэчаў у сваім першынстве, што адмоўна адбіваецца на канчатковых выніках. А чаму я прыгадаў менавіта гэтую каманду з Германіі, а не, напрыклад, больш славуты «Вердэр» з той жа бундэслігі, ён таксама адразу трапіў у трэці раунд Інтэртота, дык справа ў тым, што «Вольфсбург» будзе сапернікам пераможцы пары «Дынама» – «Хапаэль».

А судзейскаму камітэту рэспубліканскай федэрацыі футбола наступны раз, пры складанні графіка нацыянальных чэмпіянатаў, трэба звярнуць увагу на недарэчнасці ў ім. А што, калі тое ж «Дынама», чаму не, паспяхова выступіць ва ўсіх пяці раундах кубкавых спаборніцтваў? Не цяжка падлічыць, што прапускаць мінчанам прыйдзецца ўжо не дзве, а больш сустрэчаў. Мала таго, што даганяць заўсёды цяжка, дык па гэтай прычыне ўвесь галоўны турнір года ў Беларусі будзе, як бы лепей сказаць, не зусім «легітымны».

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1729 Нумар падпісаны ў друк 5/07/2001 (15:00) Наклад — 9.920